# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 19 (584) ГОД XII 7 МАЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр


## БГКТ

### КАНЦЭРТ

18 красавіка г.г. па запрашэнню арганізацыі ТППР пры Банку інвестыцыйным і Камітэце дробнай вытворчасці ў Варшаве ў мастацкай частцы акадэміі прысвечанай Ленінскім Дням выступілі самадзейнікі Варшаўскіх аддзелаў Беларускага і Рускага таварыстваў.

Беларуска-рускі хор пад кіраўніцтвам Б. Мулярчыка і акампаніяменце А. Будберга выканаў беларускія, рускія, польскія і ўкраінскія песні. Выступілі салісты хора: Я. Карпінская, А. Бутрук, З. Пашкевіч, З. Уласэнка, С. Зэляр, А. Жэланец і Ул. Годун. З салістаў вылучаўся тэнар — С. Зэляр, які па-мастацку выканаў меладычныя італьянскія песні.

В. Швед прачытаў свой верш «Ля Маўзалея Леніна». Удзельнікі драмгуртка Рускага таварыства М. Страшэўская, В. Ціткоў і Ул. Кахановіч дэкламавалі вершы прысвечаныя Леніну і Кастрычніцкай рэвалюцыі. Праграму вяла Р. Леўчук.

Усе пункты праграмы надзвычай цёпла ўспрымаліся прысутнымі ў зале працаўнікамі двух прадпрыемстваў — арганізатараў цікавай урачыстасці.

### ДАКЛАД

Сучасная руская савецкая літаратура была тэмай цікавага і змястоўнага даклада, з якім выступіў у памяшканні Варшаўскага аддзела БГКТ др А. Баршчэўскі. Нялёгкай справай з'яўляецца на працягу дзвюх гадзін абмеркаваць аграмадную літаратуру, такім чынам, каб гэта было цікава і карысна тым, хто не толькі цікавіцца, але і вывучае рускую літаратуру, пастаянна сочыць за яе навінкамі. Толькі добрае веданне прадмета і аратарскія здольнасці дра А. Баршчэўскага дазволілі справіцца з цяжкім заданнем.

Дакладчык вылучыў з рускай савецкай літаратуры найбольш істотныя моманты, на пачатак сканцэнтраваў сваю ўвагу на вядучай паэтычнай тройцы, да якой належаць: А. Блок — пясняр інтэлігенцыі, С. Ясенін — пясняр сялянства і Ул. Маякоўскі — пясняр рабочага класа. Потым спыніўся на празаіках-веліканах, як: М. Горкі, А. Талстой, І. Эрэнбург і М. Шолахаў. Цікава ахарактарызаваў паэтычную і празаічную творчасць Б. Пастэрнака, яго аповесць «Доктар Жывага», скандэнсаваную, мастацкую прозу І. Бабэля, цікавую аповесць А. Салжэніцына «Адзін дзень Івана Дзенісавіча» і апавяданне «Матронін двор», а таксама аповесць Ул. Дудзінцава «Не самым хлебам».

Свой даклад закончыў др А. Баршчэўскі ацэнкай творчасці тройцы маладых таленавітых паэтаў А. Вазнесенскага, Р. Раджджэственскага і Я. Яўтушэнкі.

Некаторыя абагульненні дакладчыка, з якімі не згаджаліся паасобныя слухачы, выклікалі жывыя спрэчкі.

**Віктар Швед**

### СУСТРЭЧА З Г. БУДНІК

21 красавіка ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку адбылася сустрэча з былым актыўным дзеячам нацыянальна-вызваленчага руху ў Польшчы тав. Галенай Буднік.

### ДАКЛАД

У сувязі з 22-ой гадавінай падпісання дагавору Польшчы з Савецкім Саюзам аб дружбе, супрацоўніцтве і ваеннай дапамозе 23 красавіка ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку адбыўся на гэту тэму даклад прадстаўніка Ваяводскага праўлення ТППР Рышарда Смалінскага. (мх)



**Дзяржаўны ансамбль песні і танца «ШЛЁНСК». Сардэчна вітаем у Беластоку!**




Гэта наш зямляк. Белавежац. На жаль, няма яго сярод жывых. У апошніх днях вайны быў варварскі замучаны гітлераўцамі. Загінуў як жыў: незвычайна і па-геройску.

Нарадзіўся 11 ліпеня 1901 года. Бацькі яго мелі некалькі гектараў белавежскай, значыць пясчанай зямлі. Сашка хадзіў у школу.

Цар Мікалай II меў у Белавежы ўласны палац. Часам прыязджаў на паляванне. Перад яго прыездам настаўніца белавежскай школы падрабязна экзаменавала ўсіх вучняў па знаёмству царскай сям'і. Не заікнуўшыся, трэба было назваць імёны і прозвішчы ўсіх прынцэсаў і прынцаў, іх аўтабіяграфію і заслугі. Сашка Вашкевіч заікнуўся, памыліў, здаецца, прынцэсу Софію Паўлаўну з нейкай другой. У школе палічылі гэта як насмешку над царскай сям'ёй, як бунт. Не атрымаў тады Сашка царскага падарунку. Крыўда моцна закаранілася ў дзіцячай душы.

Успыхнула вайна. Белавежцы кінуліся ў бежанства. Бацькі Сашы апынуліся ў Чэлябінску. Ён сам 17-цігадовым юнаком у бурлівым 1918 годзе добраахвотнікам паступіў у Чырвоную Армію. Стаў байцом 237 палка пяхоты.

І так пачалася яго вайсковая кар'ера. Крок за крокам усё вышэй і вышэй.

Пасля вайны ў Белавежу ён ужо не вярнуўся. Не меў чаго і да каго вяртацца. Астаўся сіратой. Бацькі яго памерлі на цяжкіх дарогах бежанства нашага беларускага народа.

Байцом быў адважным і разумным. Таму хіба камандванне адобрыла яго просьбу, калі захацеў вучыцца. Спярша паступіў у школу малодшых афіцэраў 27 дывізіі пяхоты, а потым у афіцэрскую школу ў Смаленску. Асабліва цікавіла яго ваенная тэхніка: самаходы і танкі. На каўнеры Вашкевічавай гімнасцёркі хутка паявіліся афіцэрскія кубікі. Адначасова змянялася яго назначэнне: камандзір узвода, намеснік ротнага камандзіра, штаб-афіцэр, начальнік штаба 211-га пехацінскага палка. Быў гэта ўжо 1926 год.

Летам 1940 года Аляксандр Вашкевіч наведаў свае родныя старонкі. Быў тады ўжо маёрам. Служыў у Маскве. Кіраваў абучэннем афіцэраў-«фрунзенцаў». Распытваў знаёмых і сваякоў, як жылося ім за панскай Польшчы, расказваў пра Савецкі Саюз, раскрываў перад імі заманлівы краявід недалёкай будучыні. Любіў рыбалку. Як даўней, у дзіцячыя гады, разам з сябрамі хадзіў на рэчку за рыбай.

У чэрвені 1941 года пайшоў на фронт. Камандаваў палком. Яго полк заўзята змагаўся на славутай курскай дузе. За геройскі праведзенае наступленне палкоўнік Аляксандр Вашкевіч атрымаў Ордэн Чырвонага Сцяга, а цэлы полк пахваліла вярхоўнае камандванне.

Наступны этап яго баявой славы — гэта бой за Днепр, на берагах якога гітлераўцы намагаліся спыніць контрафензіву чырвонаармейцаў. Палкоўніку Вашкевічу з горсткай салдат першаму ўдалося ўварвацца ў абарону ворага на другім беразе ракі. Ля вёскі Перваточнае 18 раз атакавалі гітлераўцы адважных байцоў, а яны адбілі ўсе атакі.

Калі прыйшла дапамога, былі ўжо ледзь жывыя.

Камандванне высока ацаніла ахвярнасць нашага земляка. Яму прысвоена званне **Героя Савецкага Саюза, Медаль Залатой Звязды і Ордэн Леніна.**

Па прапанове Саюза Польскіх Патрыётаў палкоўніка Аляксандра Вашкевіча накіравалі ў Войска Польскае. Спярша вучыў ён афіцэраў, а потым перайшоў пад камандванне легендарнага генерала Кароля Свярчэўскага — Вальтэра. Дапамагаў яму фарміраваць II Армію Войска Польскага. 13 верасня 1944 года назначылі Вашкевіча камандзірам пятай дывізіі пяхоты.

Штабафіцэр генерала Свярчэўскага, палкоўнік запаса Міхаіл Касэя, які асабіста ведаў Вашкевіча, успамінае:

— Вашкевіч быў чалавекам вялікай амбіцыі. Памятаю, гаварыў ён: «Што вы сабе думаеце? Мая пятая мусіць быць, як гвардыйская!»

Сталі пад Лукавам. Камандзір увесь свабодны час праводзіў сярод салдат і ахвотна еў з салдацкага кацялка. Не даваў тады промаху і кухарам і афіцэрам-кватэрмайстрам.

**(Працяг на стар. 4)**

УВАГА, ВЫПУСКНІКІ АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫХ ЛІЦЭЯЎ

## Беларуская філалогія ў Беластоку

Ад новага навучальнага года адкрываецца стацыянарнае аддзяленне беларускай філалогіі пры II Настаўніцкай студыі ў Беластоку. Будуць у ёй рыхтавацца настаўнікі беларускай і рускай моваў для беларускіх школ Беласточчыны.

Паданні трэба складаць праз дырэкцыі сваіх ліцэяў да 10 чэрвеня г.г. Выпускнікі папярэдніх год павінны складаць усе дакументы непасрэдна на адрас студыі (II Studium Nauczycielskie w Białymstoku, ul. Świerkowa 20, tel. 224-87) да 15 мая. Студыя мае свой інтэрнат. Хлопцы адначасова праходзяць у студыі вайсковую падрыхтоўку.

## ХУТКА: „СМЕРЦЬ ПРЭЗІДЭНТА"

Кніга Уільяма Манчэстэра «Смерць прэзідэнта» выклікала вялікі шум. Яе напісаў былы рэпарцёр газеты «Балтымор іўнінг сан», аўтар сямі кніг, у тым ліку кнігі «Партрэт прэзідэнта», прысвечанай дзейнасці Джона Ф. Кенедзі. У лютым 1964 года Манчэстэр быў выкліканы членамі сям'і Кенедзі з ФРГ, дзе ён працаваў над гісторыяй дынастыі Крупа. Удава і брат нябожчыка -прэзідэнта папрасілі Манчэстэра падрабязна апісаць трагічныя падзеі ў Даласе з тым, каб «бараніць прэзідэнта Кенедзі і праўду». Працуючы па 16 гадзін у суткі, праінтэрвюіраваўшы больш як пяцьсот чалавек, у тым ліку і тых, хто меў хоць бы найменшыя адносіны да падзей (толькі прэзідэнт Джонсан адмовіўся ад гутаркі), пісьменнік к сярэдзіне мінулага года закончыў кнігу. За 665 тысяч долараў амерыканскі часопіс «Лук» набыў у аўтара права на публікацыю скарочанага часопіснага варыянта кнігі, перапрадаўшы гэты варыянт англійскай «Сандзі таймс», французскаму часопісу «Пары-матч», італьянскаму «Эпока» і заходнегерманскаму «Штэрн».

Яшчэ не ўбачыўшы свет, кніга Манчэстэра выклікала рэзкія спрэчкі. Удава нябожчыка-прэзідэнта абвінавачвала аўтара ў тым, што ён урываецца ў яе прыватнае жыццё.

Кнігу Манчэстэра пачнем друкаваць у чэрвені. Думаем, што кніга выкліча сярод нашых чытачоў вялікую цікавасць. «Смерць прэзідэнта», так як і «Маёр Віхор», будзе друкавацца праз усе летнія месяцы. Заахвочваем ужо зрабіць падпіску на чэрвень (прыймаецца да 15 мая).

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### АБ КАНФЕРЭНЦЫІ Ў КАРЛАВЫХ ВАРАХ

У мінулым тыдні ў Карлавых Варах закончылася канферэнцыя камуністычных і рабочых партый па еўрапейскай бяспецы. У нарадзе прыймала ўдзел 25 еўрапейскіх партый. Не прыймалі ўдзелу ў канферэнцыі албанская і галандская партыі, якія адкінулі запрашэнне, а таксама югаслаўская і румынская, якія не прыбылі на нараду. Не прысутнічалі ў Карлавых Варах таксама ісландская і нарвежская партыі. Ужо ў першым дню канферэнцыі прысутныя выдалі зварот аб аб'яднанні сілы і шырэйшай падтрымкі ў барацьбе в'етнамскага народа, а таксама заяву адносна падзей у Грэцыі.

У заключэнні канферэнцыі ўдзельнікі яе падпісалі аднагалосна заяву «За мір і бяспеку ў Еўропе». Неабходна падкрэсліць, што гэтая ж заява з'яўляецца калектыўна апрацаванай праграмай барацьбы камуністычных і рабочых партый. У дакуменце віднеюць усе прапановы, якія ўзяла польская дэлегацыя: граніцы ў Еўропе павінны быць непарушнымі, паміж усімі еўрапейскімі краінамі, у тым і ГДР, павінен быць падпісан дагавор, што адракаюцца яны прымяняць сілу пра ўзаемных суадносінах.

### ФАШЫСЦКАЯ ДЫКТАТУРА Ў ГРЭЦЫІ

Ваенная дыктатура ў Грэцыі ёсць фактам. Не доўга грэчаскі народ мог цешыцца хаця і малымі дэмакратычнымі свабодамі. Фашысцкая юнта крывава распраўляецца з левымі сіламі, многія з іх запоўнілі турмы. Дзеля хутчэйшага дзеяння юнта паклікала Ваенны Трыбунал, які мае больш жорстка распраўляцца з праціўнікамі фашызму. Газеты паведамлялі, што між іншым Трыбунал прысудзіў Маноліса Глезаса — грэчаскага героя, антыфашысцкага барацьбіта, да смяротнай казні. Гэтая звестка выклікала абурэнне ва ўсім свеце. У абароне арыштаваных выступіў таксама генеральны сакратар ААН У Тан.

### ГАВОРАЦЬ ЛІКІ

2.963.000 беспрацоўных у ЗША, 682.000 у Італіі, 602.000 у Вялікабрытаніі, 372.000 у ФРГ, 350.000 у Францыі. Гэтыя лікі беспрацоўных падала заходняя прэса.

### ЛЕНІНСКІЯ ПРЭМІІ

Ленінскія прэміі ў галіне літаратуры і мастацтва ў гэтым годзе атрымалі: кампазітар Кара Караеў за балет «Следам грому», Ігар Маісееў за праграму «Дарога да танца» і мастак Піменаў за серыю карцін «Новыя кварталы», Р. Сіманаў за інсцэнізацыю ў тэатры Вахтангава, а таксама пасмяротна ўзнагароджана паэта М. Святлова.

### ПРАМЫСЛОВАСЦЬ САЦЫЯЛІЗМА

У 1937 годзе Савецкі Саюз выпускаў 10% сусветнай прамысловай прадукцыі. У канцы 1966 г. удзел сацыялістычных краін у сусветнай прамысловай прадукцыі ўзрос на 38%. **А.К.**

## БССР

### ВЯРХОЎНЫ

Адбылася сесія новавыбранага Вярхоўнага Савета Беларусі. Гэты беларускі парламент складаецца з прадстаўнікоў дзевяці нацыянальнасцей, што засяляюць Беларусь. І так, сярод дэпутатаў 317 беларусаў, 75 рускіх, 14 украінцаў, іншых нацыянальнасцей 15.

На старшыню Вярхоўнага Савета БССР паўторна выбраны паэт Максім Танк (Яўгень Скурко). Створана новы ўрад Беларускай ССР, на чале якога пастаўлены Ціхан Кісялёў, таксама паўторна. Істотных змен у складзе кабінета беларускіх міністраў няма.

### ВЕЧАР

У Мінску адбыўся вечар дружбы, прысвечаны 22-ой гадавіне падпісання Дагавору аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе паміж Савецкім Саюзам і Польшчаю. Вечар адкрыў сакратар Мінскага абкома Кампартыі Беларусі А. Караткевіч.

Даклад меў старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах друку Г. Канавалаў, які нядаўна пабываў у Польшчы і быў госцем нашага Беластока.

### МЕЛІЯРАЦЫЯ

У Пінску адбыўся сход партыйна-гаспадарчага актыву, скліканы па ініцыятыве ЦК КП Беларусі і Міністэрства меліярацыі і воднай гаспадаркі Саюза ССР.

На гэтым сходзе, м. ін. меў прамову міністр Я. Аляксяеўскі, які нядаўна выступаў у беларускім друку наконт вялікіх перспектыў Палесся. Справа меліярацыі палескіх балот, якія могуць стаць ураджайнымі, з'явілася ў цэнтры ўвагі сельскагаспадарчай палітыкі на Беларусі.

### АРТЫКУЛ

Аб рабоце партыйнай арганізацыі студыі «Беларусьфільм» піша «Звязда», орган ЦК КП Беларусі. Аўтар артыкула сцвярджае нездавальняючую працу:

...«што ні фраза, то агульшчына: «накіраваць усе намаганні», «уключыць у работу за павышэнне эфектыўнасці...», «дабіцца выканання намечаных мерапрыемстваў...», «Сканцэнтраваць увагу на нявырашаных задачах...» і гэтак далей. А на якіх «нявырашаных задачах», чыю ўвагу, каму канкрэтна «прыняць удзел» і ў якой рабоце? — аб гэтым ні слова.

Аўтар артыкула аналізуе трывожную сітуацыю ў беларускай кінематаграфіі.

### ПЛЕНУМ

Адбыўся пленум праўлення Саюза журналістаў Беларускай ССР, які абмеркаваў даклады рэдактара цэнтральнай газеты «Советская Белоруссия» А. Зініна аб задачах друку ў сувязі з 50-годдзем Савецкай улады і старшыні праўлення Саюза журналістаў БССР Ф. Кляцкова аб падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы журналісцкіх кадраў Беларусі.

(С. Я.)

## ПОЛЬШЧА

### У ІМЯ МІРУ І САЦЫЯЛІЗМА

1 мая ва ўсёй краіне адбыліся ўрачыстыя паходы і маніфестацыі, падчас якіх працоўныя нашай краіны задэманстравалі свае дасягненні і рашучасць у барацьбе за мір, сацыялізм і дружбу паміж народамі.

Цэнтральная маніфестацыя з удзелам кіраўніцтва партыі і ўрада адбылася ў Варшаве. Перад пачаткам паходу з прамоваю выступіў Уладзіслаў Гамулка. З першамайскай трыбуны пераслаў ён розным групам працоўных мас краіны сардэчныя і гарачыя прывітанні. Звярнуўся ён між іншым да працаўнікоў сельскай гаспадаркі са словамі: «Віншуем сялян, сельскагаспадарчых рабочых, спулдзельцаў, усіх працаўнікоў сельскай гаспадаркі, якіх праца вырашае аб узросце плёнаў нашых палёў, аб забеспячэнні краіны ў харчаванне, а прамысловасці ў сельскагаспадарчую сыравіну. Пабольшвайце плёны ў кожнай гаспадарцы і з кожнага гектара, поўнасцю выкарыстоўвайце сучасныя сродкі прадукцыі, якія дзяржава дае ў вашы рукі, падымайце сельскагаспадарчую культуру!»

Прамоўца падкрэсліў вялікае значэнне для гісторыі Польшчы і іншых народаў Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі, 50-летні юбілей якой адзначаецца ў гэтым годзе. У далейшай частцы прамовы Уладзіслаў Гамулка заявіў: «Сёння, у дню 1-майскага свята, злучаемся з сотнямі мільёнаў людзей на ўсіх кантынентах у пратэсце і асуджэнні злачынстваў агрэсіі амерыканскага імперыялізму супраць в'етнамскага народа. Патрабуем устрымання варварскіх бамбардзіровак Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнама! Патрабуем устрымання амерыканскай інтэрвенцыі ў В'етнаме Паўднёвым, патрабуем правоў гаспадара свае краіны в'етнамскаму народу!»

### ЗЯЛЁНЫЯ ЎГОДДЗІ

У меру развіцця прамысловасці плошча зялёных угоддзяў пастаянна змяншаецца. Сельскагаспадарчыя землі ідуць пад забудовы, дарогі, вадаёмы і г.д. У 1946—64 гадах плошча зялёных угоддзяў у выніку індустрыялізацыі зменшылася на 310 тысяч гектараў. Колькасць угоддзяў на аднаго жыхара краіны зменшылася з 0,85 гектара ў 1946 годзе да 0,64 гектара ў 1964 годзе. У сувязі з тым апрацоўваюцца зараз нормы плошчы, якой нельга будзе перакрочыць пры новых інвестыцыях. Адносіцца гэта будзе між іншым і да вёскі.

### НАЙБОЛЬШАЯ Ў КРАІНЕ

Найбольшая ў краіне шахта руды выбудуецца ў раёне Чэнстаховы. Будзе яна называцца «Клубоцк I» і эксплуатавацца каля 30 гадоў. Кошт інвестыцыі — каля 850 мільёнаў злотых.

### ПАДВЫЖКА

Падвышана некаторыя найніжэйшыя сямейныя і інвалідскія пенсіі. Гадавая сума, якую дзяржава прызначыла на новую падвыжку, раўняецца 270 мільёнаў злотых. (уп)

## ВАЯВОДСТВА

### ПЕРШАМАЙ

Пры сонечным і цёплым надвор'і прайшоў сёлеташні Першамай. У Беластоку галоўная першамайская трыбуна была абсталявана на вуліцы Марыі Кюры Складоўскай. Шматгадзінны, звыш 50-цітысячны святочны паход працоўных горада і прадстаўнікоў сялян з навакольных вёсак і ПГР-аў Беласточчыны віталі: І-шы сакратар А. Лашэвіч і другія члены Экзекутывы Ваяводскага камітэта ПАРП, а таксама прадстаўнікі ваяводскіх органаў СД і ЗСЛь і старшыня Прэзідыума ВРН С. Жмійка. Сярод іх знаходзіліся госці Гродна: сакратар Абкома КПБ Аляксадр Ульяновіч і намеснік старшыні Абвыканкома Сяргей Пронька.

Маніфестацыю працоўных Беластока адкрылі рабочыя тэкстыльнай прамысловасці, а закрылі спартсмены. Праходзіла яна пад лозунгамі змагання за мір, супраць вайны ў В'етнаме і адраджэнню германскага мілітарызму, за салідарнасць з рабочымі ва ўсім свеце, асабліва за спыненнем дыктатуры ў Грэцыі.

Падобныя дэманстрацыі і мітынгі праходзілі ва ўсіх гарадах і пасёлках Беластоцкага ваяводства.

Першамайскія дэманстрацыі папярэдзілі ўрачыстыя пасяджэнні, якія наладжваліся таксама ва ўсіх гарадах і пасёлках. У Беластоку першамайскае ўрачыстае пасяджэнне адбылося 29 красавіка ў тэатры імя А. Вянгеркі. З прамовай выступіў А. Лашэвіч. Ахарактарызаваў ён баявы шлях пройдзены рабочым класам ад 1890 года, калі рабочыя Еўропы ўпершыню выйшлі на вуліцы гарадоў адзначаць Першамай. «Памятаем, — між іншым заявіў ён, — што гэта маладая Рэспубліка Саветаў, ануляваўшы царскія дагаворы, стварыла рашаючыя ўмовы для здабыцця самастойнасці Польшчы пасля I сусветнай вайны». Пасля выступіў сакратар гродзенскага Абкома КПБ, тав. Аляксандр Ульяновіч, які ад імя гродзенскіх працоўных сардэчна прывітаў жыхараў Беласточчыны. Пасля прамоў на сцэне беластоцкага тэатра выступіў Смаргонскі калектыў песні і танца імя Агінскага.

### У ГОНАР ПЕРШАМАЯ

Прадпрыемства чыгуначных стальных канструкцый у Старасельцах за выдатныя вынікі ў сацыялістычным спаборніцтве ўжо другі раз заваявала на ўласнасць сцяг міністра камунікацыі і Галоўнага праўлення прафсаюзаў чыгуначнікаў. Рабочыя прадпрыемства паспяхова выконваюць першамайскія абавязацельствы. 240 чалавек па некалькі гадзін працавала грамадскім чынам.

**Рэдакцыя «Нівы» выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму бухгалтару Беластоцкага прэсавага выдавецтва Віктару Ляўковічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці жонкі.**




**Niedziela 7.V.**

8.15 Politechnika TV; 10.00 Dla młodych widzów: „Dom przy ulicy Hebernskiej" (Praha); 10.55 „Królewna i rybak" — film fab. CSRS; 12.05 PKF; 12.15 Dziennik; 12.25 „Henri Dunant — twórca Czerwonego Krzyża" — film; 13.10 Sprawozdanie z wyścigu kolarskiego o Puchar MON w Warszawie; 13.40 „Przemiany"; 14.05 „Piórkiem i węglem"; 14.25 Wojskowe Zespoły Estradowe; 14.55 Wyścig kolarski ulicami Warszawy o Puchar MON (c.d. sprawozdania); 15.15 „Trzeci Harcerski Alert"; 15.25 Teatrzyk dla Przedszkolaków; 16.05 Wyścig kolarski ulicami Warszawy o Puchar MON (c.d. sprawozdania); 16.25 Teatr TV: „Mozart i Salieri" A. Puszkina; 17.00 Sprawozdanie sportowe; 17.45 „Nasi nad Lemanem" — rep. film.; 18.00 „Wielka gra"; 19.00 „Profesor Tutka wśród melomanów"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Jakaś dziewczyna" — program rozrywkowy; 20.30 „Paszport do Pimplico" — film fab. ang.; 21.50 Niedziela Sportowa.

**Poniedziałek 8.V.**

16.50 Program dnia; 16.55 Dziennik; 17.00 „Przygody Gapiszona"; 17.10 Dla młodych widzów: „Pod siatką i koszem" odc. I; 17.30 „7 milionów młodych"; 17.45 „Nos dla tabakiery"; 18.10 „Eureka"; 18.40 „Spacerkiem po kinach"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Reportaż; 20.25 Teatr TV: Erich Maria Remarque „Ostatnia stacja"; 21.55 „Na półkach księgarskich"; 22.05 „Uwaga, remont" — rep. film.; 22.15 Dziennik.

**Wtorek 9.V.**

9.10 „Wojenna przyjaźń" — film fab. węg.; 10.55 Dla szkół: (kl. X) Język polski — J. Conrad „Jutro"; 12.30 Przysposobienie Rolnicze: „Urządzenie mieszkania"; 15.20 Przysposobienie Rolnicze: „Urządzenie mieszkania"; 16.00 Politechnika TV; 17.00 Dziennik; 17.05 Dla młodych widzów: „Młodzi wynalazcy"; 17.20 Dla młodych widzów: „Latający Holender" — rejs piąty; 17.50 Telekram; 18.00 „Giełda piosenki" (piosenki wojskowe); 18.30 „Próby"; 19.00 TV Kurier Warszawski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Nazajutrz po wojnie" — film tv pol.; 20.30 „Wojenna przyjaźń" — film fab. węg.; 22.10 „Panorama Literacka"; 22.50 Dziennik; 23.10 Politechnika TV.

**Środa 10.V.**

9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Źródła ciepła"; 10.30 „Alfred Hitchcock przedstawia"; 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Szkło"; 15.15 XX Jubileuszowy Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z uroczystego otwarcia oraz przebieg I etapu na trasie dookoła Warszawy (108 km); 16.10 „Przypominamy, radzimy" — „Zielonki w żywieniu drobiu"; 16.20 PKF; 16.35 Dla młodych widzów: „Zwykłe sposoby — niezwykłe sekrety"; 17.00 Dziennik; 17.05 Wszechnica TV: „10 000 wioseł" („W pracowniach polskich uczonych"); 17.40 XX Wyścig Pokoju. c.d. transmisji. Sprawozdanie z I etapu na trasie dookoła Warszawy; 19.00 „Sezon w budownictwie przemysłowym"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Koncert Wejwanowskiego" — film CSRS; 20.15 „Alfred Hitchcock przedstawia"; 21.05 „Światowid"; 21.35 Zespół „Berżeretek"; 22.00 Dziennik.

**Czwartek 11.V.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „W obronie pokoju"; 15.55 Kurs Rolniczy: „Biologiczne metody ochrony roślin"; 16.25 „Morze Ochockie" — film radz.; 16.35 „Kino Ptyś"; 16.55 Dla młodych widzów: „Czy umiesz mówić po polsku?" odc. II; 17.15 Dziennik; 17.30 XX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia II etapu na trasie Kutno — Poznań (176 km); 18.15 „Śpiewnik domowy" S. Moniuszki. Wykonawcy: soliści Teatru Wielkiego i Muzycznego w Łodzi; 18.50 „Przemysł żywi"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Bitwa o Anglię" — rep. film.; 20.20 Teatr Sensacji: „Mord w hurtowni"; 21.25 „Klęski i nadzieje" — rep. film.; 22.10 Dziennik.

**Piątek 12.V.**

10.55 Dla szkół: (kl. lic.) „Panorama" — wiadomości o Polsce i świecie; 12.00 Dla szkół: (kl. II) „Barwy wiosny"; 12.20 „Panna bez posagu" — film fab. radz.; 16.35 „Przygody Robinsona Crusoe"; 17.00 Dziennik; 17.05 „Wyprawy TV Przyjaciół"; 17.40 XX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia III etapu na trasie Poznań — Bydgoszcz (125 km); 18.30 „Poligon"; 19.00 „Wielokropek"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Panna bez posagu" — film fab. radz.; 21.40 „10 minut recenzji"; 21.50 „Studencka scena"; 22.15 Dziennik.

**Sobota 13.V.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „India"; 10.25 „Niezwykła klasa" — film fab. CSRS; 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Biologia — „Rozmnażanie i rozwój organizmu"; 16.40 Program tygodnia; 17.00 Dziennik; 17.05 Dla dzieci: „Teatrzyk Kieszonkowy" — K. Makuszyński „O tym jak krawiec pan Niteczka, został królem"; 17.25 „Świat, który nie może zginąć"; 17.50 Program filmowy; 18.15 „Po szóstej"; 18.55 „Wieczorne rozmowy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.05 „Błękitny express"; 20.45 „Tele-Variete"; 21.45 Dziennik; 22.15 Wiadomości sportowe; 22.30 XX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie filmowe z zakończenia V etapu na trasie Bydgoszcz — Słupsk; 22.45 „San Francisco" — film fab. USA.




**5 maja, piątek**

9.00 Dziennik. 9.15 Dla młodzieży. 9.45 Koncert pieśni rosyjskiej. 10.25 Wiedza polityczna dla wszystkich. 14.45 Program. 14.50 Gazeta „Zwiazda" w latach wojny. 15.20 „Zawsze w pierwszej linii". 15.50 Dziennik. 16.00 Gimnastyczny mecz TV Moskwa — Sofia. 17.30 Sztafeta nowin. 18.30 Koncert muzyki ludowej (Bukareszt). 19.00 Instytut energii atomowej Akademii Nauk BSRR. 19.30 Film dokumentalny. 20.00 „Zamach". Film fabularny.

**6 maja, sobota**

12.55 Program. 13.00 Klub filmowy. 14.00 Dla uczniów. 14.50 „Żyję tu". 15.20 „Wiedza". 15.50 Dziennik. 16.00 „Bajka zimowa" Szekspira. Spektakl. 19.30 Kocert Państwowego Zespołu Tańca BSRR. 20.10 „Białoruskie radio i telewizja dziś i jutro". 20.30 TV teatr miniatur.

**7 maja, niedziela**

8.55 Program. 9.00 Dla uczniów. 9.30 Przedmieścia Leningradu. 10.00 Dla dzieci. 10.45 Dla uczniów. 11.25 Film animowany. 11.35 „Pionieria". 11.45 „Muzyka z Bratysławy". 12.45 Dzień radia i TV. 13.30 „Ostatnie dni trzeciej rzeszy". 14.15 „Od Lutego do Października". 14.30 „Białoruś literacka". 15.25 „Knot". 15.35 Festiwal filmów historyczno-rewolucyjnych. 17.30 Klub filmowy. 18.30 Dziennik. 19.00 „Ogoniok". 20.20 Dziennik. 20.30 „Wieczór pieśni białoruskiej".

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 101

АЛЕСЬ БАРСКІ

* * *

Заяц раніцай руні наеўся
першай руні зялёнай сачыстай
пад кустом пад сасновым усеўся
заглядзеўся у сонца агністае
што паўзло праз кусты на каленках
з галаўнёю ў руках агняцветнай
і паліла бярозам сукенкі
выганяла з дубровы лета
заяц дзіву не мог надзівіцца
на ўзлессі ўпаў на калені
і пачаў ён да сонца маліцца
і ад дзіва зрыжэў паасенняў

* * *

Апошні ліст на ветры спатыкнуўся
зваліўся у труну разоры
але паэт на шчасце падвярнуўся
і адспяваў малебен-гора
усе мы адплывем
чаўны чакаюць дзесьці
смерць ходзіць смерць стаіць на стражы
пампэм і можа быць за тыдняў дзвесце
што нас няма ніхто не заўважыць



* * *

Толькі ты паказаў
мне дарогу ў жыццё
па табе як па промні
у шчасце пайшоў
а дайшоў да слязы
ды сляза ды і смех
у краіне тваёй
маюць вартасць адну
толькі ты паказаў мне
дарогу ў мяне
у чарноту у бель
плыве карабель
у таемнасць вядзе
акіянам паветра
і над ім і над мной
шапоча штодзень
верша ветразь

* * *

У скверах шумнага Парыжа
цалуюцца публічна пары
патомкі графаў і маркізаў
з наследнікамі камунараў
і як цалуюцца
устыд агорне
душу і сэрца славяніна
мы ж прыкрываем ноччу чорнай
свой пацалуначак з дзяўчынай
а тут ад рання і да ночы
цалуюцца і шэпчуць пары
каханне па-над Сенай крочыць
па скверах і па тратуарах

УЛАДЗІМІР ГАЙДУК

* * *

**Ёсць краіна думак**
**Свет замкнуты**
**Ў адным я**
**Не прабуй разблытаць**
**Сяброўскай прыслугай**
**Таго што ў цябе няма**

* * *

Каханнем быццам той агонь
Успыхнула перагарэла
І попелам у душу села
Ў сэрцы аставіўшы вуголь

І толькі іскру вочы кінуць
Успыхне зарывам светач
І нам жаданага цяпла
Хопіць навек аж да магілы

## ДУМКІ АРАТАГА

Айсбергі думак
Смарагдовыя адценні
Праменняў згустак
А ў душы надзея
Сонечны зайчык у жмені

Цень крылом ворана
Закрывае квяцісты воблак
Туга затоена
Ажывае нанова
Як недасказанае слова

## НАША ДОЛЯ

Доля наша, доля чорна,
Збірала ў полі зёрна.
На прыгорку, на пясочку
Збірала па каласочку.

Доля наша, доля чорна
Круціла ў каморы жорна.
Пот рукою абцірала,
Часта хлеба не хватала.

Хлеб быў горкі, з лебядою,
Мацаваліcь мы з бядою.
Грудзі рваліся ад болю,
Праклінаді людзі долю.

Пралетары дружна ўсталі,
Зямлю сеялі, аралі.
Нашых рук магутна сіла
Ўвокал цэлы свет змяніла...

Паўзірайцеся сягоння,
Сонца йдзе па розных гонях.
Зелянее ў полі ніва,
Красуецца ўсім шчасліва...

В. АСІПОВІЧ

ВІКТАР ШВЕД




Ад малых год мае Жэня
Поўны тварык рабацення.
Нат на носіку і вушках
Размясціліся вяснушкі.
Дзеці ў школе празываюць
Жэню найчасцей «рабая»,
Больш прыстойную мянушку
Жэні надалі: «вяснушка».
Нехта нат прыдумаў лоўка:
«Жэня — божая кароўка».
І злуе заўсёды Жэня
На дзяцей, на рабаценне.
Жэня марыць: неяк мушу
Вызваліцца ад вяснушак.
А ў сапраўднасці у Жэні
Тварык мілы ў рабаценні.

## КУРКА ЧУБАТКА І ГУСЯНЯТКІ

Пасадзіла цётка Майка
Курку на гусіных яйках.
Неўзабаве было шмат
Невялічкіх гусянят.
З жоўтадзюбай чарадой
Ходзіць курка над ракой.
Курка берагам ідзе,
Гусяняты ўсе ў вадзе.
І на дзіва, без канца,
У ваду даюць нырца.
Гляньце, што за дзівакі,
Не пужаюцца ракі.
Курка плача: ко-ко-ко-ко,
У рацэ вада глыбока.
У вадзе мае малюткі
Патапіцца могуць хутка.
Не ведае чубатка,
Што гэта гусянняткі.




**У чырвоных доўгіх ботах**
**Крочыць бусел праз балоты.**
**Ён магутнай сваёй дзюбай**
**Надта жабкі лавіць любіць.**
**Працы шмат у бусла таты:**
**Есці хочуць бусляняты.**
**Трэба з'есці жабак многа,**
**Покуль акрыяюць ногі,**
**Покуль хопіць сваёй сілы**
**Распрастаць у небе крылы.**

І. ЧЫКВІН

* * *

О як дрэнна спазніцца!
Выйсці з кругу спадніцы
І бязрадна карачкаць,
Калі урок параканаўчы
Давала гісторыя свету...

Калі за клунямі бабахалі
І бацькі лезлі ў атаку,
Мы да стала паўзлі ракам
І падалі... і бабы ахалі.

На двары стаяла стагоддзе.
Яны? Якім да нас бокам?
Вучылі маці пройдзена
Чытаць з вузенькіх вокан.

Недзе над Гайнаўкай іржавай
Лупілі ў схвастыку бомбы,
Ноч усю неба ражала
Крывяным зарывам помсты.

Прыходзіла неспадзявана
І спадзявана доўга
Постаццю Івана
Нашая ўсіх перамога.

Канчалася вайны спякота —
Мы не былі ў паходзе;
Мы толькі што ўваходзілі
Ў гістарычнае кола.



* * *

зноў сам
усё далёкае, бязлікае
чужое
як вуліцы і скверы
няма ахвоты верыць
у чыстае вялікае

маўклівы дом
вярнуліся старыя справы
іграе цэлы дзень адна пласцінка
няма нікога у гасцінная
і стынуць вершы
бы ў паперках стравы
вокны насцеж
насцеж дзверы
буду сваю роспач мерaць
ад пачатку
сам
у сваіх успамінах
я шматкроп'ем недзе згіну.

 

(Працяг са стар. 1)

# Генерал Вашкевіч

У лістападзе 1944 года **Аляксандр Вашкевіч атрымаў званне генерала брыгады.** Тады другі раз наведаў Белавежу. Быў коратка, дзень або два. Гаварыў:

— Ідзем дабіваць фрыцаў. Але яшчэ сустрэнемся. І тады вып'ем, братцы, за перамогу!

Пятую дывізію накіравалі ў Варшаву. Забеспячала і ачышчала яна разбураную сталіцу. Потым былі гарады: Лодзь, Познань, Вроцлаў, фарсіраванне Нысы і наступленне на Будзішын-Дрэздэн.

21 красавіка штаб генерала Вашкевіча абсталяваўся ў мясцовасці Тауэр. Пятая дывізія фармальна аставалася на другой лініі фронту. Аднак два яе палкі па прыказу камандвання II Арміі Войска Польскага пайшлі ў наступленне і без перашкод адарваліся ад штаба на 15—20 кіламетраў. Іншы зноў полк быў праведзены ў распараджэнне штаба арміі. Генерал Вашкевіч астаўся ў Тауэр з некамплектнай сваёй дывізіяй.

Каля 4-тай гадзіны пасля абеда нечакана паявіліся немцы. Гітлераўскія дывізіі «Брандэнбург» і «Гросдойчлянд» рваліся на дапамогу акружанаму Берліну. Ішлі з паўднёвага і паўночнага ўсходу, гэта значыць — ззаду, адкуль іх найменш спадзяваліся. Генерал Вашкевіч трапіў у акружэнне. Не ўсё яшчэ ясна і зразумела, што адносіцца да апошніх трагічных хвілін яго жыцця. Вядома, што не здаваўся. Бой працягваўся два дні. Сувязь са штабам была парвана ўжо ў першую гадзіну нямецкай атакі.

Потым — 5 мая 1945 года — знайшлі яго цела ў мясцовасці **Штыфтсвізэ.** Лекарская камісія сцвердзіла:

«На аснове ўнутранага і вонкавага медагляду цела генерала Вашкевіча ўстаноўлена, што пры жыцці быў ён мучаны і біты тупой прыладай і нагайкай... Пры жыцці выразалі яму левае вока і павеку, а правае вока выкалалі. Затым быў ударань тупой вялікай цяжкай прыладай у лоб, і гэты ўдар выклікаў поўнае знішчэнне мазга і зламанне асновы чэрапа: наступіла смерць».

У Белавежы асталася па ім добрая памяць. Пад канец лютага г.г. вучні старшакласнікі ляснога тэхнікума ў Белавежы наладзілі папулярна-навуковую сесію прысвечаную жыццю і барацьбе свайго земляка. Яго імем намераны назваць свой тэхнікум. Новы гмах для яго зараз будуюць. Імя генерала Аляксандра Вашкевіча прысвоена адной афіцэрскай школе.

**В. Рудчык**



**Палкоўнік запаса Міхал Касэя асабіста знаў генерала Вашкевіча. Ён высока ацэньвае яго як салдата і камандзіра.**




**У лясным тэхнікуме вучні абсталявалі гістарычны куток, дзе сабралі памяткі і матэрыялы, якія ілюструюць жыццё і баявы шлях іх земляка, Героя Савецкага Саюза генерала брыгады Аляксандра Вашкевіча.** Фота аўтара

# Беластоцкія журналісты ў гаспадара ваяводства



**Нядаўна, у сувязі з XX-годдзем Рабочай выдавецкай спулдзельні «Праса», дэлегацыя беластоцкіх журналістаў наведала старшыню Ваяводскай рады нарадовай Стэфана Жмійку і пазнаёміла гаспадара ваяводства з дасягненнямі беластоцкай прэсы і перспектывамі яе развіцця. У склад дэлегацыі ўваходзілі галоўныя рэдактары «Беластоцкай газеты», «Нашай всі» і «Нівы», а таксама прадстаўнікі прафесіянальных і грамадскіх арганізацый беластоцкага журналісцкага асяроддзя. Сустрэча адбылася ў непасрэднай і сардэчнай атмасферы. На здымку: у час сустрэчы.**

**Фота З. Зарэмба**

# Наступайце ў беларускія ліцэі!

У беларускіх ліцэях у Бельску і Гайнаўцы пачаўся ўжо набор вучняў. Кожны год выпускнікі гэтых ліцэяў масава паступаюць у вышэйшыя ўстановы або займаюць пасаду настаўніка і вучаць у пачатковых школах Бельшчыны. Успомненыя два ліцэі далі ўжо многа высокай рангі кадры для нашай дзяржавы. Прыводзім прыклад.

Беларускі агульнаадукацыйны ліцэй у Бельску ўжо закончыла больш як 600 чалавек. Больш як 400 яго абсальвентаў закончылі вышэйшыя навуковыя ўстановы або яшчэ вучацца. Пасля заканчэння ліцэя многія пачалі працаваць настаўнікамі. Зараз 20 асоб выпускнікоў беларускага ліцэя ў Бельску вучыцца ў Беластоку на Настаўніцкай студыі. Падобна справа выглядае з выпускнікамі беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы. А вось што трэба зрабіць, каб паступіць ў агульнаадукацыйныя ліцэі ў Бельску і Гайнаўцы.

Трэба зложыць: 1) заяву (паданне), 2) аўтабіяграфію (жыцёрыс), 3) метрыку нараджэння, 4) пасведчанне школы аб тым, што з'яўляешся вучнем 8-га класа, 5) пасведчанне з 7-га класа, 6) пасведчанне аб здароўі (з найбліжэйшага пункта аховы здароўя), 7) два здымкі.

Тыя, хто закончыў 7 класаў у мінулых гадах і не вучыўся і не закончыў 17-ці год жыцця, таксама могуць паступіць у беларускія ліцэі.

Будуць экзамены з

1) польскай мовы
2) беларускай мовы
3) матэматыкі

Тыя школьнікі, якія не вучыліся беларускай мовы ў пачатковай школе, будуць экзамены здаваць толькі з польскай мовы і матэматыкі. Беларускую мову будуць здаваць у снежні пасля падрыхтоўчага курса.

Выдатнікі з 7-га і 8-га класаў, гэта значыць тыя, якія маюць ацэнкі ў пасведчанні на выдатна і добра (5 і 4), могуць быць прыняты без уступных экзаменаў.

Ёсць магчымасць атрымаць стыпендыю, а ў Бельскім ліцэі нават інтэрнат. Набор вучняў да ліцэяў будзе працягвацца да 15 чэрвеня.

Падаем адрасы ліцэяў:

Liceum Ogólnokształcące z białoruskim językiem nauczania w Bielsku Podlaskim, ul. Kopernika 4.

Liceum Ogólnokształcące z białoruskim językiem nauczania w Hajnówce, ul. Wyzwolenia 5.

(мх)

А. Баршчэўскі, В. Швед

# Дружба і праца

Хрэстаматыя для VIII кл.

Эдуард Самуйлёнак

## АПАВЯДАННЕ ПРА ГУМАНІЗМ

Спачатку размова ішла аб дробязях. Госць Іван Іванавіч, дробненькі стары, хадзіў па пакоі. Гаспадар маўкліва сядзеў за сваім прасторным рабочым сталом. Павольна шчоўкаў маятнік, з сумежных пакояў даносіўся гоман і смех.

— Вось і яшчэ гадок пражылі мы з табой, Яфім Сцяпанавіч... — Уздыхнуў госць, падыходзячы да акна.

Яфім Сцяпанавіч моўчкі паківаў галавой. У прыхожай азваўся званок. Па калідоры нехта прабег. Раздаліся радасныя воклічы, прывітанні. Потым усё гэта рушыла ў пакой. Збіраліся госці.

Іван Іванавіч доўга стаяў ля акна, пазіраючы ў цемру, дзе шырока раскінулася велізарнае сузор'е агнёў горада, потым падышоў да стала.

Ведаеш Яфім Сцяпанавіч, што я хачу зрабіць? — спытаў ён. — Я хачу сказаць нашаму маладняку навагодні тост.

— Ну, ну!.. — заахвочваючы ўсміхнуўся гаспадар.

— Я ім скажу так... (Іван Іванавіч прыняў позу аратара). Маладыя таварышы, маладыя сябры нашы...

— Ну, ну...

— ...Год — гэта трыста шэсцьдзесят пяць дзён, плюс шэсць гадзін. Гэта мера, устаноўленая чалавекам для вызначэння адлегласці часу і напоўненая жыццём, натхненнем творчасці, радасцю перамог, адчаем няшчасцяў, спакоем сілы, парывамі шуканняў, усім, што ўласціва жыццю. Для мяне і для майго паважанага калегі і старога друга Яфіма Сцяпанавіча шмат гэтых мерак засталося ў мінулым. Перад вамі ж — нязведаная і светлая далячынь будучыні. У сувязі з гэтым я хачу сказаць, што вы, маладыя таварышы нашы, — самыя шчаслівыя людзі на свеце ў разуменні мінулых часоў і сучаснасці. Вы, іменна, савецкая моладзь... Мы з Яфімам Сцяпанавічам не толькі адлічылі дастатковую колькасць памянёных вышэй мерак, але і грунтоўна азнаёміліся з іх, так сказаць, пачынкай. І з усяго добрага і дрэннага, што здараецца ў жыцці чалавека, на нашу долю прыпадала ў пераважнай большасці апошняе. Яфім Сцяпанавіч напісаў сваю выдатную працу ва ўмовах жабрацкага, галоднага побыту, а вынаходніцтва вашага пакорнага слугі нарадзілася ў начлежным доме, хаця вы не ведаеце, што такое начлежны дом... Я жыў на чужым пашпарце з прычыны разыходжання маіх поглядаў з поглядамі ўрада яго вялікасці... Мы можам расказаць вам аб разгонах паліцыяй студэнцкіх сходаў, аб пагромных аперацыях мітрапаліта Сергія, нарэшце, аб Монпарнасе* і запэўніць вас, што, не гледзячы на рамантыку, якой авеяла літаратура гэты квартал Парыжа, ён быў і застаецца галодным светам сутарэнняў і мансард*. Аб гэтым вы таксама не ведаеце, як і аб астатнім. За вамі не гнаўся конны паліцэйскі і вас не лупцавалі чарнасоценцы* ўладыкі Сергія...

Усмешка знікла з твару Яфіма Сцяпанавіча, і ён задумаўся. Гэта прамоўца заўважыў.

— Жыццё ў тых умовах было прыніжэннем, творчасць — геройствам. ...Цяпер пад словам «геройства» разумеецца нешта такое, што немагчыма абсалютна нідзе на свеце, і магчыма толькі ў краіне, якая ўзнікла на той частцы планеты, дзе некалі была імперыя Расія.

І цяпер мы з Яфімам Сцяпанавічам на геройства, у новым сэнсе слова, не здольны, з прычыны зношанасці механізмаў. І гэта не па сутнасці маёй прамовы. Сутнасць яе ў тым, што я яшчэ раз і яшчэ раз хачу сказаць: вы самыя шчаслівыя людзі на свеце. Вы жывеце ў краіне, законы якой з'яўляюцца марай лепшых людзей усіх часоў і эпох. Вы нарадзіліся ў гэтай краіне, і ваша маладосць расквітнела ў ёй. Для вас першы дзень новага года — гэта новая ступень да вышынь чалавечага шчасця, вольнай творчасці, радасцей жыцця. Вы моладзь, якая не ведала жудасці прыніжэння, роспачы жабрацтва, тугі адзіноцтва...

Дарагія сябры мае! Заканчваючы сваю прамову, я хачу даць вам адну параду: ідучы сваімі дарогамі, абмінаючы знакі гадоў, назаўсёды запомніце дату сённяшняга дня. Яна завяршыла год, у які адбылася значнейшая гістарычная падзея. Гэты год падараваў чалавеку Канстытуцыю! Назаўсёды запомніце гэта і аберагайце, як лепшы ўспамін вашай маладосці. За радасць і шчасце нашай краіны, за лепшых яе людзей!.. З новым годам, таварышы!

Іван Іванавіч памаўчаў.

— Ну, а ты, Яфім, адыграеш на раялі туш*. Такім парадкам мы з табой удвух віншуем маладняк.

Яфім Сцяпанавіч павольна ўстаў і вышаў з-за стала. Ён быў сівы, плячысты і высокі, на галаву вышэйшы за Івана Іванавіча.

— Іван! — сказаў Яфім Сцяпанавіч. — Іван, я здзіўлены і ўзрадаваны. Ты застаўся маладым. Людзі, якія ў твае гады гавораць аб жыцці так, як ты, доўга жывуць і добра працуюць.

І ён падаў Івану Іванавічу шырокую далонь.

У гэты ж момант зазвінеў тэлефон. Яфім Сцяпанавіч падышоў і ўзяў трубку. Хвіліну ён стаяў моўчкі і слухаў. Іван Іванавіч заўважыў, як сышліся яго сівыя бровы і рыска заклапочанасці лягла на маршчыністы лоб.

— Я... — сказаў Яфім Сцяпанавіч і скоса зірнуў на акно, — словам... вось што... прысылайце машыну!

І паклаў трубку.

— Што там такое?.. — спытаў зацікаўлены Іван Іванавіч, разглядаючы кнігу. — Паедзеш куды-нібы?

— Не зусім, — сурова ўсміхнуўся Яфім Сцяпанавіч. — Я палячу на самалёце.

— Што?

— Мне трэба ляцець на самалёце. Званілі ад наркома аховы здароўя... Патрэбна неадкладная аперацыя. Захварэў значны работнік, інжынер, кансультант будаўніцтва.

— Далёка?

— Трыста кіламетраў... Мне сказалі, што аэраплан гатовы і чакае на гэтым, як яго... старце. Зараз прыдзе машына, дапамажы мне сабрацца.

— Яфім... А сэрца?

— Што сэрца?



 

# 20 год Рабочай выдавецкай спулдзельні „Праса”

Майскімі днямі ў «Днях асветы, кніжкі і прэсы» святкуем у гэтым годзе 20 год існавання Рабочай выдавецкай спулдзельні «Праса».

Установа гэтая выдае **181 загалоўкаў газет і часопісаў** (абсалютная большасць усіх часопісаў у Польшчы). У гэтым маем **45 дзённікаў** (між іншым **«Трыбуна люду», «Трыбуна роботніча»**, «Жыце Варшавы», «Газета Беластоцкая» і **124 часопісы** — тыднёвікі і іншыя **(між іншым «Ніва»,** «Культура», «Палітыка», ілюстраваныя тыднёвікі).

**Агульны тыраж аднаразовы ўсіх газет і часопісаў РСВ «Прасы» — 17 мільёнаў экземпляраў.**

20 год прасы — гэта і наша — журналістаў свята і ўсіх тых, хто ў Беластоцкім выдавецтве прасовым РСВ «Прасы» працуе з намі.

Гэта і свята нашых чытачоў, якім мазольна, але сістэматычна газету робім.

Гэта свята нашых 100 карэспандэнтаў, якія памагаюць нам рабіць «Ніву».

У гэтае свята прыпомніць хочам чытачам і ўсім: газет і часопісаў чытаем надзвычай мала. А гэта ж першая ступень па драбіне да сучаснага жыцця, у сучасны свет, сучасную культуру.

Да чытання «Нівы» — ўласнай газеты, асабліва заклікаем з выпадку майскага свята газеты. (вл)

# ТЭХНІКА ПРАЦЫ ВЯЛІКІХ ЛЮДЗЕЙ

На тэхніку творчай працы людзі глядзяць па-рознаму. Адны сцвярджаюць, што толькі тыя творы маюць несумненную і трывалую вартасць, якія ствараліся павольна і паступова. Іншыя, наадварот, даказваюць, што якраз найбольш вартасныя рэчы ствараюцца ў раптоўным выбуху творчай энергіі.

Густаў Флобер быў прыхільнікам працы сістэматычнай, сарганізаванай, свядомай сваіх намаганняў. Фрыдрых Ніцшэ зноў раіць «не верыць аніякай думцы, якая не нарадзілася на паветры і пры свабодным руху» і ганіць «цярплівасць сядухі».

Тэхніка працы, як і ўсё на свеце, залежыць ад індывідуальнасці самога стваральніка і абставін, у якіх ён жыве. Старажытныя рымляне гаварылі, што «стыль, гэта чалавек», і мелі рацыю. Гэта самае можна сказаць і аб тэхніцы працы.

Анорэ Бальзак ішоў спаць, калі яшчэ добра не сцямнела, але апоўначы ўставаў і пісаў аж да раніцы. Пры гэтым піў непраўдападобную колькасць кавы. Арнольд Бёклін, прыняўшы раз нейкую думку, не адкладваў пэндзля датуль, пакуль зусім не кончыў карціны. Юлій Цэзар так здолеў выключыцца з акружаючага яго свету, што мог працаваць у кожных абставінах і часе. Фёдар Дастаеўскі патрабаваў да працы цішыні і настрою, які дае ноч. Пісаў пры зачыненых аканіцах і пры дзвюх запаленых свечках. Падобна пісаў і Леў Талстой. Анатоль Франс тварыў у вялікіх муках. Кожны сказ даваўся яму з нечуванай цяжкасцю. І. Гётэ дыктаваў свае творы ходзячы па пакоі з заложанымі назад рукамі. Кнут Гамсун, не маючы памяшкання, пісаў дзе папала: шмат на вуліцы, у парку, у касцеле і на лесвічных клетках. Пазней тварыў пераважна ў ложку. Генрых Ібсэн кожны дзень пісаў аднолькавую колькасць старонак і нішто яго ад гэтага правіла не магло адарваць. Жан Жак Русо па некалькі гадзін думаў над адным словам. Фрыдрых Шылер найбольш інтэнсіўна працаваў тады, калі чуў пах гнілых яблык. Марк Твэн пісаў не адну са сваіх кароткіх гумарэсак не ўстаючы некалькі дзён з ложка.

Гэты кароткі агляд сведчыць, што тэхніка працы вялікіх людзей залежыць ад іх звычак, а неаднаразова і капрызаў.

Апрацаваў **П. Ластаўка**





**КАРАЛЕЎСКАЯ «ТУРМА»**

**Лондан, як кажуць вачавідцы, сумны горад. Халодны, няўтульны. Але хіба рэкорд англійскай чужасці б'е замак Віндсор з XIV стагоддзя — слаўная сядзіба англійскіх каралёў пад Лонданам (на здымку). Калі ў нашыя вокны заглядае вясёлае сонца, скача па вуглах сонечным зайчыкам, нічуць не зайздросцім мы багатай Елізавеце II — англійскай каралеве, у сумныя дзіркі-вокны палацу якой заглядае англійская імгла. Палац, як турма.**

**(вл)**

## АЗОТ ЗАМЯНЯЕ ХОЛАД

У халадзільнікаў з'явіўся канкурэнт — газ азот. Пры перавозцы гародніны, зяляніны, мяса, птушкі і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў у кантэйнерах, запоўненых азотам, яны паступаюць да спажыўцоў амаль што зусім свежымі. У азоце можна захоўваць прадукты даволі працяглы час — некалькі тыдняў. Новы спосаб перавозак і захоўвання хутказагніваючых прадуктаў прывядзе да замены штучнага холаду азотам.

# Каран і свіння

У Англіі была праведзена ўдачная спроба па трансляцыі сардэчнага клапана ад свінні чалавеку, ратуючы гэтым чынам яму жыццё. Вестка пра гэтую аперацыю дайшла ў Каір, і тут выклікала зусім нечаканыя сумненні, якія выявіла адна з каірскіх газет. Аўтар артыкула звярнуўся да двух высокіх мусульманскіх духоўных: муфція Егіпта Ахмад Харедзі і шэйха Махамеда Эль Хацімі, каб яны аўтарытэтна паяснілі, ці веруючаму мусульманіну можна згадзіцца на падобную аперацыю, ці мусульманін будзе ў згодзе са святым каранам, калі ён прыме нейкі свінячы орган, каб ратаваць сваё жыццё. Справа ў тым, што святая кніжка мусульманаў — каран — прызнае свінню нячыстай жывёлінай. Абодва духоўныя аўтарытэты далі станоўчы адказ. (а-вр)

# Гісторыя кішэннага агню

Запалкі, здольныя запальвацца ад трэння, з'явіліся ў студзені 1831 года. Іх вынайшаў французкі хімік Шарль Сорыя. Прапітаўшы лучынку серай, ён злёгку «прыпудрыў» яе берталетавай соллю і белым фосфарам. Але Шарль Сорыя быў бедны і не змог узяць патэнт на сваё вынаходніцтва. Праз год запалкі ў другі раз «вынайшаў» нямецкі настаўнік Камэрэр. А ў 1836 годзе прыярытэт пачаў аспрэчваць венгр Ірыні.

Але «кішэнны агонь», прапанаваны гэтымі вынаходцамі, меў недахопы: запалкі лёгка запальваліся, але белы фосфар, які ўваходзіў у іх састаў, выклікаў атручванне. Таму быў наладжан выпуск бяспечных, так званых шведскіх запалак.

Цяпер акрамя звычайных запалак, прамысловасць выпускае запалкі спецыяльнага прызначэння: тэрмічныя, сігнальныя, фатаграфічныя, штармавыя.




Пад раніцу Віхор выбраўся на шашу. На асфальце ляжала малочная раса, быццам першы асенні замаразак. Віхор ішоў уздоўж дарогі, па дробналессі. Думаў ён цяпер аб тым, што здарылася гэтай ноччу з яго таварышамі. Ён перабіраў усе магчымыя варыянты: найгоршыя спачатку, а потым, паступова, найбольш удачныя для членаў яго групы.

«Відавочна, нас раскідаў вецер, — думаў Віхор. — Стральбу я павінен быў бы пачуць, таму што яны скакалі першыя, а вецер быў на мяне».

Ён спыніўся — штуршком — і замёр. Спераду асфальт быў перагароджаны калючым дротам і пагранічным шлагбаўмам. Уздоўж шлагбаўма хадзіў нямецкі вартаўнік. Пад лесам стаяла вартаўнічая будка. З коміна валіў сіні дым — клубамі кладучыся да зямлі: відавочна распальвалі печку.

Некалькі хвілін Віхор стаяў, адчуваючы, як усё цела яго скурчвае цяжкае, паступовае, прачынаючаеся напружанне. Потым памалу, быццам звер, ён пачаў прысядаць. Ён ведаў лес. Яшчэ хлапчуком ён зразумеў, што няма нічога больш прыкметнага ў лесе, як рэзкі рух. Звер бяжыць праз гушчар, і яго відаць, але вось ён замёр — і знік. Знік да тых пор, пакуль зноў не здрадзіць сябе рухам.

Віхор лёг на зямлю, зноў замёр, паляжаў так з мінуту, а потым пачаў паціху адпаўзаць у лес. Ён забіўся ў гушчар, павярнуўся на спіну і доўга глядзеў на мудрагелістае перапляценне чорных галінак над галавой. «Відавочна, я выйшаў да граніцы рэйха з генерал-губернатарствам. Інакш адкуль граніца? Відаць, мы выскачылі далёка на захад ад Кракава, значыць, патрулёў да чорта. Дрэнная справа».

Віхор дастаў карту, разаслаў яе на траве і, падпершы галаву кулаком, пачаў вадзіць пальцам па шасэйных дарогах, якія ішлі з Кракава: адна на ўсход, іншая на Закапанэ, трэцяя ў Сілезію, чацвёртая на поўнач, на Варшаву.

«Так. Гэта дарога на Сілезію. Кіламетр адсюль — тэрыторыя трэцяга рэйха... Трэба назад. Кіламетраў семдзесят, не менш».

Віхор дастаў з кішэні плітку шакалада і ляніва зжаваў яе. Выпіў з флягі крыху студзёнай вады і пачаў адпаўзаць яшчэ далей у лес.

Віхор добра ўстанавіў, што перад ім граніца. Ён таксама зрабіў правільную здагадку аб узмоцненай патрульнай службе. Але Віхор, зразумела, не мог ведаць, што ўчарашні палёт іх самалётаў быў засечаны пеленгатарнымі ўстаноўкамі. Больш таго, было дакладна запеленгавана нават тое месца, дзе самалёт павярнуў назад. Таму шэф кракаўскага гестапа даў загад начальніку аддзела III-А прачасаць лясы ў раёне тых квадратаў, дзе прыблізна быў скінуты груз або парашутысты чырвоных.

Віхор ішоў па лясной дарозе. Яна то падымалася, то падала ўніз у цёмныя і халодныя лагчыны. У лесе было ціха. Дарога была даўно не езджана, але тым не менш вельмі добрая, не разбітая дажджамі. Віхор прыкінуў, што калі ён пойдзе такім крокам праз лес, то заўтра на адвячорку будзе зусім блізка ад Рыбны і Злобнува. Ён вырашыў не заходзіць у вёскі, хоць папольску гаварыў даволі добра.

«Не варта, — вырашыў ён. — Тутэйшага становішча я добра не ведаю. Лепш зрабіць лішнія дзесяць кіламетраў. Так ці інакш компас выручыць».

Калі сцямнела, Віхор зышоў з лясной дарогі і рушыў па мокрым мяккім імху недзе ўніз, туды, дзе шумела рака. Ён вырашыў там пераначаваць. Чым ніжэй ён спускаўся, тым цяжэй было ісці: пачыналася балота.

Ён пачаў падымацца назад — уверх да дарогі, упаў і раззлаваўся, таму што заўтра ён разлічваў увайсці ў Рыбну, а ўваходзіць у вёску з замазанымі ў гразі нагавіцамі неразумна: адразу відаць, што з лесу.

Выйшаўшы на дарогу, Віхор доўга чысціў бярозавым лісцем свае фасоністыя туфлі, падношаныя ім натолькі, каб не казацца новымі: гестапа дакладна аглядае рэчы, калі затрымае. Яны ў гэтым майстры. А новыя рэчы заўсёды падазроны. Зверыўся па карце, дзе ён цяпер павінен быў знаходзіцца, і палез уверх улева ад дарогі. Начны лес быў яму прыемны сваёй зусім іншай, асаблівай, патрэбнай яму цяпер цішынёй. Лесу, незнаёмага і асабліва начнога, баяцца ўсе: і тыя, хто шукае ў ім, і тыя, хто ў ім хаваецца. Але тыя, што шукаюць, баяцца яго больш.

Ён уладкаваўся пад вялікай кашлатай ёлкай, выцягнуўся з хрустам і не прыкмеціў, як заснуў цяжкім сном. Прачнуўся ён, быццам ад удару: яму пачулася, што побач нехта цяжка дыхае. Ён нават выразна зразумеў, што ў гэтага чалавека насмарк — у носе хлюпала. «Дурныя сны», — падумаў Віхор. Ён і вока не адкрываў, каб супакоіць сябе. Так ён, у кожным выпадку, лічыў, так ён тлумачыў сабе гэта. У самай-та справе ў ім цяпер жылі не думкі, словы, ці гэты нос з насмаркам, які прысніўся яму, ці быў недзе зусім побач, — у самай справе ў ім цяпер працаваў інстынкт. Чалавек у начным лесе, каб выжыць і перамагчы, павінен быць як звер, гэта значыць жыць спачатку інстынктам, а потым ужо розу-

# ТРЫБУНА чытачоў

## АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ ВЫКАНАНЫ

Бацькоўскі камітэт падставовай школы ў Лубіне Касцельным (Бельскі павет) выканаў ужо І-шамайскія абавязацельствы. Бацькі грамадскім чынам навазілі на школьны пляц жвіру і пяску, а вучні раскінулі яго на падмоклыя месцы. Пасля зрабілі спецыяльны паркінг для веласіпедаў, на якіх моладзь даязджае ў школу з паблізкіх вёсак. Вартасць грамадскага чыну ацэньваецца на 2000 зл.

**Ялянта Часноўская**
вёска Лубін Касцельны

## АД 1960 ГОДА...

Сельскагаспадарчы гуртток у Плёсках існуе ад 1960 года. Дзякуючы яму сяляне нашай вёскі сталі гаспадарыць па-новаму.

Да 1960 года ніхто ў Плёсках не араў сваёй зямлі трактарам, не было нават гутаркі аб нішчэнні пустазелля хімічнымі сродкамі, ніхто не капаў бульбы машынамі-капачкамі, ніхто не жаў жыта снапавязалкай. Сельгасгурток аграмадную карысць прыносіць тым гаспадарам, якія не маюць коней і ў каго мала рабочых рук. Машынамі сельскагаспадарчага гуртка не толькі выконваюцца асноўныя палявыя работы, малацьба, але і рэзка дроў крайзэгай і іншых дробных паслуг для сялян. І так, за гэтыя апошнія 6 гадоў сельскагаспадарчая культура ў Плёсках паднялася на высокі ўзровень.

Л. Л.
Плёскі

## ЛІСТЫ Ў СССР

Вучні V — VIII класаў коматаўскай школы (Бельскі павет) вядуць перапіску са сваімі равеснікамі з СССР. І так, з VIII класа піша пісьмы ў СССР 9 вучняў, з VII — 2 вучні, з VI — 6 вучняў. Пішуць таксама дзеці з малодшых класаў, якія ведаюць ужо рускую мову. Нашыя вучні ім пасылаюць розныя адкрыткі, маркі і іншыя рэчы. Яны нам прысылаюць піянерскія гальштукі, альбомы, адкрыткі. Нашыя вучні не толькі вядуць перапіску з СССР, але нават перапісваюцца з вучнямі Чэхаславакіі і Югаславіі.

**Мікалай Заброцкі**
Агароднікі

## КУБАК КАВЫ

Настаўніца чатырохкласнай школы ў Чыжыках (Гайнаўскі павет) Марыся Мацкевіч арганізавала для школьнікаў вельмі карысную справу. Кожнае дзіця ў час перапынку атрымоўвае тут кубак гарачай кавы. Узяўшы з дому нешта з'есці добра папіць гарачай кавай, а гэта вельмі карысна ўплывае на здароўе дзяцей. І школьнікі і бацькі вельмі задаволены з ініцыятывы нашай настаўніцы.

**Марыся Швед**
Чыжыкі

---

мам. Інстынкт цяпер вырашаў замест яго — адкрыць вочы, ці зусім не паверыць гэтаму сапенню, ці, быццам у сне, павярнуцца, але так, каб правая рука абавязкова адчула пад сабою скуру партфеля, у якім гранаты і парабелум. Ён заўсёды клаў гэты партфель справа ад сябе, пад бокам; са сну вельмі цяжка выцягаць зброю з кішэняў — кішэні перакручаны, і, пакуль, вырываем адтуль зброю, губляюцца тыя хвіліны, якія могуць выратаваць. Ён павярнуўся, быццам у сне, зачмокаў губамі. Ён не загадваў сабе іграць гэтае чмоканне спячага чалавека — гэта было паміма яго, гэта ішло само сабою, як вынік яго апошніх трох лет. Партфеля не было, хоць ён дакладна сыграў жэст правай рукой, выкінуўшы яе далёка наперад, каб захапіць якнайбольш моху, калі ў сне адкаціўся ад партфеля. Яшчэ выразней ён пачуў чыесьці сапенне.

«Напэўна, каза, — сказаў сабе Віхор, усё яшчэ не адкрываючы вачэй. Стаіць і слухае, перш чым перайсці дарогу, спускаючыся да ракі, на вадапой. І ўся ўздрыгвае пры найменшым вецярку».

Так ён гаварыў сабе, дасканала разумеючы, што ён абманвае сябе. Гэта ўжо ў ім гаварыў розум, а дык розум — ілгун; толькі ў інстынкце праўда, зямная, жывая, шчырая.

— Нядрэнны сон у гэтага хлопца, — пачуў ён нямецкую гаворку ў сябе над галавой.

Віхор адкрыў вочы. Проста над ім стаялі тры гестапаўцы. У руках у аднаго з іх быў яго жоўты партфель.

**(Працяг будзе)**

## БЕЛАРУСЫ Ў ШЧЭЦІНСКІМ

У Шчэцінскім ваяводстве шмат беларусаў. Жывуць яны і на вёсках, і ў мястэчках. Нямала іх ёсць і ў горадзе Старгардзе. Прыехалі сюды яны з Віленшчыны. Многія не хочуць прызнавацца, што яны беларусы. Толькі пасля даўжэйшай гутаркі гавораць аб гэтым і сумуюць за сваім родным кутом. Але гэта ў асноўным датычыць старшага пакалення. Моладзь асімілявалася і ўжо не ўмее гаварыць па-беларуску. Ёсць шмат і такіх беларусаў з Віленшчыны, якія не трымаюць у таямніцы таго, што яны беларусы. Паколькі няма там беларускай арганізацыі, запісаліся яны да Украінскага грамадска-культурнага таварыства.

**Надзя Мартынюк**
Старгард

## ЗАГАРЭЛІСЯ ЛЯМПАЧКІ

Вёска Тафілаўцы, што на Гайнаўшчыне, налічвае 64 гаспадары. Усе іх сем'і 16 лютага гэтага года адзначылі велізарнае выдарэнне ў жыцці вёскі. У гэты дзень загарэліся электрычныя лямпачкі не толькі ва ўсіх хатах, але нават на вуліцы. Дрэнна толькі, што недаведзена электрычнае святло да крамы і ў злеўні малака.

**Янка Петручук**
Тафілаўцы

## НАЙПАПУЛЯРНЕЙШЫ ЧАСОПІС

Працаўнікі пошты ў Ласінцы (Гайнаўскі павет) маюць вялікую прафесіянальную практыку, таму добра і акуратна выконваюць свае абавязкі. Пісьманосец Іван Белавежац працуе тут 14 гадоў, а Мікалай Каўнер — 12 гадоў. Ласінская пошта ў Гайнаўскім павеце дабілася нядрэнных вынікаў у насычанасці часопісамі насельніцтва. Як заявіў начальнік пошты Сяргей Варэмюк. найбольш папулярнай газетай з'яўляецца «Ніва». А вось даныя, на якія часопісы робяць сяляне падпіску. І так, падпісчыкаў «Нівы» ёсць 242, «Грамады-рольнік польскі» — 82, «Газеты Беластоцкай» — 77, «Аграхімія» — 66. Найбольш падпісчыкаў «Нівы», бо аж 106, мае пісьманосец Мікалай Каўнер. У Івана Белавежца — 86, а ў Аляксея Давідзюка — 50. (Даныя за месяц сакавік).

**Міша Тэлешэўскі**
Рэпіска




Дарагое Сэрцайка!

Пакахаў я дзяўчыну са сваёй вёскі. Яна таксама мяне кахае. Ужо нездоўга яна спадзяецца дзіцяці. Дзяўчыну маю пакахаў другі хлапец з мае вёскі, які нічога аб гэтым не ведае. Ён таксама ёй падабаецца. Я чуў, што Наташа (так будзем называць маю дзяўчыну) мае выходзіць замуж за майго сябра. І мне таксама спадабалася другая дзяўчына і таксама з гэтай самай вёскі.

Парай, Сэрцайка, ці жаніцца мне з гэтай другой дзяўчынай, ці адмовіць сябра і ажаніцца з Наташай.

Чакаю хуткай парады.

Федзя з Гайнаўшчыны

Дарагі Федзя!

Вельмі многа ты паўтараеш у сваім пісьме слова «кахаю», «кахае», і т.п. Аднак з лісту твайго відаць, што і ты і Наташа не разумееце яшчэ гэтага слова. Як жа Наташа можа кахаць і цябе і твайго сябра, а ты Наташу і другую дзяўчыну? З твайго пісьма відаць, што вы яшчэ вельмі маладыя, а так ужо моцна запуталіся ў справы дарослых, у справы вельмі сур'ёзныя. Не раю табе жаніцца з другой дзяўчынай, а Наташы выходзіць за другога. Вы ж ужо сталіся бацькамі, і вашае дзіця, якое ў хуткім часе народзіцца, патрабуе імення Наташы і цябе. Ты як найхутчэй пагавары з Наташай і з вашымі бацькамі і вазьміце шлюб. Гэта найлепшае выйсце, бо што ж будзе, калі Наташа выйдзе за твайго сябра і той аб усім даведаецца, бо гэтага ж не схаваеш. А і ты ў такім самым становішчы як і Наташа. Захацелі зарана быць дарослымі, дык і паступайце як дарослыя.

Усяго найлепшага жадае вам
Сэрцайка

## СЦЕРАЖОМСЯ ПАЖАРУ

Хуткімі крокамі прышла вясна са сваёю прыгажосцю. Вясна — не толькі пара цёплага паветра, паху кветак і другіх прыемнасцей. Вясна — таксама пара сухавеяў, пара маланак, пара пагрозаў пажарамі. Вясною супрацьпажарная служба заўсёды знаходзіцца ў поўнай баявой гатоўнасці. На працягу 1966 года на Беласточчыне было каля 1000 пажараў, а страты прынесеныя імі складаюць суму каля 40 мільёнаў злотых.

Да вялікіх пажараў на Беласточчыне адносіцца таксама пажар лесу каля вёскі Рудакі на Сакольшчыне. Прынёс ён страты каля 1-го мільёна злотых.

А што нясе нам гэты год? Маем яшчэ пачатак вясны, аднак друк і радыё прыносіць ужо трывожныя звесткі аб пажарах. Нараджаецца пытанне: Ці не можна ўсцерагчыся ад пажару? На гэтае пытанне можна адказаць, што пакуль што ў 100% нельга, аднак можна значна зменшыць лік пажараў. Калі б кожны з нас на сваім панадворку і ў будынках ліквідаваў тыя месцы, якія выклікаюць пагрозу лёгкай запальнасці, калі б кожны з нас не пакідаў бы без апекі дзяцей і строга выконваў супрацьпажарныя загады, лік пажараў напэўна быў бы намнога меншы. Аднак на вёсцы на ўсё гэта звяртаецца мала ўвагі, ці то з недахопу часу, ці то проста з лёгкадумнасці.

К.П.
Сакольшчына

## ЛЕБЕДЗІ НА БЕЛЬШЧЫНЕ



На пачатку сакавіка прыляцела ў Бельскі павет пара лебедзяў. Затрымаліся яны над рэчкай Арлянкай у сажалцы ля гаспадаркі Сцяпана Вязоўскага, жыхара калёніі Зубава. Гаспадар гэты зацікавіўся імі і клапатліва даглядае іх. Штодзённа дае ім тры кілаграмы ячменю. Лебедзі хутка пазнаёміліся з хатнімі птушкамі, а менавіта з качкамі і з імі заходзяць у гаспадарскі будынак. Курэй лебедзі не любяць і адганяюць ад сябе, а гусі іх баяцца. Новыя птушкі — лебедзі кожны дзень адлятаюць на паўкіламетра да другой сажалкі, аднак пасля некалькіх гадзін вяртаюцца. Цікава, адкуль яны прыляцелі?

**В. Весялоўскі**
Пасынкі

## КАБ ХУТЧЭЙ

У паўночна-заходняй частцы Сакольскага павета добра працуюць сельскагаспадарчыя гурткі, маюць шмат патрэбных машын да апрацоўкі зямлі і жывуць заможна. Зусім інакш выглядае ў паўднёва - ўсходняй частцы Сакольшчыны. Тут яшчэ мала ёсць сельскагаспадарчых гурткоў і недастаткова трактараў. Тут яшчэ людзі мучацца на праклятай цераспалосіцы і не могуць увесці сучаснай тэхнікі на вузкія палоскі, якія неаднойчы цягнуцца па 2—3 кіламетры. У гэтых мясцовасцях не можа жыць па-сучаснаму гаспадар таму, што не мае ён магчымасці змеханізаваць апрацоўкі зямлі. Напрыклад, у Шудзялаўскай грамадзе ёсць 8 сельскагаспадарчых гурткоў, якія аб'ядноўваюць 168 членаў. Але аніводзін з гэтых гурткоў не мае ні трактара, ні снапавязалкі толькі таму, што няма магчымасці іх выкарыстання.

Праўда, вядуцца працы звязаныя з камасацыяй у нашым раёне. Але ўсё гэта неяк цягнецца вельмі доўга і цяжка дачакацца «вызвалення» ад цераспалосіцы.

А.С.
Сакольскі павет

## КОНКУРС БІБЛІЯТЭК

Публічная бібліятэка ў грамадзе Тымянка (Сямяціцкі павет) супольна з іншымі арганізацыямі, якія там існуюць, на пачатку гэтага года аб'явіла конкурс пад загалоўкам «Здароўе і культура — асновай сучаснай сям'і». Згодна з умовамі конкурсу той, хто прымаў удзел у конкурсе, абавязаны быў прачытаць не менш як дзве кніжкі звязаныя тэматычна з назвай конкурсу і расказаць іх перад камісіяй. На гэтую тэматыку кніжкі чытала 26 жанчын. 7-га красавіка ў клубе-кавярні «Рух» у Тымянцы адбылося ўрачыстае заканчэнне конкурсу. Прыступіла да яго толькі 17 асоб. 1-ае месца заняла Галіна Чайкоўская з Сямяціч. Другую ацэнку атрымалі: Яўгенія Дудэль, Станіслава Сухота, Валя Сідарук і Марыся Такаюк. Усе ўдзельніцы конкурсу атрымалі ўзнагароды. На заканчэнне гэтага цікавага мерапрыемства кінаперасоўкай ГП БГКТ быў паказаны савецкі фільм пад загалоўкам «Недакончаная песня».

**Міхась Вішэнка**
Сямяціцкі павет

# КІНО

**Праграма**
**на 9—14.V.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Więźniowie nocy" (argentyński), 9—10. „Poławiacze gąbek" (radz.), 11—12. „Bokser" (polski), 13 — 14.

**Кляшчэлі**
„Samotna" (polski), 9 — 10. „Kochankowie z Marony" (polski), 11—12. „Sublokator" (polski), 13 — 14.

**Дубіны**
„Arcylokaj" (franc.), „Odraza" (węgierski), 13 — 14.

**Нараўка**
„Zemsta OAS" (franc.), „Tak" (węgierski), 10 — 14.

**Нарва**
„Szalone wakacje" (jugosł.), „Nigdy nie wrócę" (radz.), 10—15.

**Чыжы**
„O carski tron" (bułgarski), „Siódmy przysięgły" (franc.), 10 — 14.

**Дубічы Царкоўныя**
„Cisza, na sali operacja!" (radziecki), „Dzwonić Nortside 777" (USA), 10—14.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Winetou" (jugosł.), I i IIs, 10 — 14.

**Орля**
„Święta wojna" (polski), „Wystrzał" (polski), 10 — 14.

**Райск**
„Śmierć Tarzana" (czeski), „Dziewczyna kłamie" (jugosł.), 10 — 14.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Pod karnawałową maską" (kubański), „Bariera" (polski), 9 — 12.

**Міхалова**
„Sędzia dla nieletnich" (NRF), 9—10. „Rycerz bez zbroi" (bułg.), 11 — 12. „Gdy miłość przemija" (jugosł.), 13 — 14.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Wieczny kalendarz" (bułg.), 9 — 10. „Szkoła grzeszników" (czeski), 11 — 12. „Don Gabriel" (polski), 13—14.

**Шудзялава**
„Zwyczajny faszyzm" (radz.), „Śmierć Belli" (franc.), 10—14.

**Сідра**
„Gorsza miłość" (węgierski), 9 — 10. „Dzielnica kruków" (szwedzki), 11—12. „Głosuję na miłość" (jugosł.), 13—14.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Cierpkie głogi" (polski). „Kozacy" (radz.), 13—14.

**Новы Двор**
„Gangster i urzdęnik" (USA), „Urocza gospodyni" (USA), 13 — 14.

**Ліпск**
„Trzy życzenia" (rumuński), „Samson" (polski), 13—14.

**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-34, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.746 Błtk M-3

# Стрэляны верабей

Яна падышла да яго, калі ён стаяў на аўтобусным прыпынку — чакаў аўтобуса, каб ехаць дадому.

— Я вас кахаю, — сказала яна і ўзяла яго пад руку.

Ён збянтэжыўся. Здзіўлена паглядзеў на яе — поўныя, пафарбаваныя губы, прыпудраны, роўны нос, кароткая грыўка ільняных валасоў, што спадае на лоб. Зусім — зусім дзяўчо.

— Але ж я жанаты, — засаромеўся ён.

— Гэта нічога, што вы жанаты. Жонка — не перашкода ў каханні. Развядзецеся...

— Што вы, што вы? Я ж стары...

— Перастаньце штокаць, успамінаць сваю старасць, — уладным голасам амаль загадала яна. — Я не магу больш глядзець, як вы пакутуеце. Вас ані не цэніць жонка. Вы самі сабе прасуеце кашулі, штаны, ходзіце па магазінах, стаіце ў чарзе, нават тады-сяды варыце, як звычайная кухарка, есці. Хіба ж гэта жыццё такому чалавеку, як вы?

Ён разгубіўся яшчэ больш. Дзяўчына гаварыла праўду. Чыстую праўду. Мала таго, што ён усё гэта, пра што гаварыла дзяўчына, рабіў, дык яшчэ і слухаў штодзень жончыны папрокі — то тое не так, то гэтае не гэтак.

— Прабачце, але адкуль вы пра ўсё гэта ведаеце? — нясмела запытаўся ён.

— Ведаю, бо даўно сачу за вамі. Хіба ж можна так здзеквацца з такога чалавека! Вы — наша гордасць! Вам трэба даць час, каб вы займаліся сваёй справай і не думалі пра чыстую бялізну, яду... Жыць з такой жонкай? Ні дня, ні гадзіны больш! Заўтра ж нясіце заяву на скасаванне шлюбу...

Дзяўчына прыхінулася яшчэ цясней да яго, заплюшчыла падведзеныя вочкі і пацалавала яго ў лоб...

— Помніце, — па-змоўніцку шапнула яна. — Заўтра ж...

Прыехаўшы дадому, ён яшчэ раз абдумаў усё сваё жыццё, згадаў дзяўчыну і тут жа напісаў заяву на развод. І... прачнуўся.

Ад нечаканасці аж страсянуў галавою.

«Фу ты, чорт! Зноў ледзь не ўскочыў!»

Але, успомніўшы, што ўсё гэта толькі сон, засмяяўся. «Не, я стрэляны верабей, — падумаў ён, — мяне не так лёгка падмануць. Годзе і таго, што я адзін раз паверыў такой вось дзяўчыне і кінуў ранейшую жонку».

Стары прафесар перавярнуўся на другі бок, але заснуць ужо не мог...

**Барыс Сачанка**






Без слоў.

### НАІЎНАЕ ПЫТАННЕ

— Мама, хіба наш тата працуе сплаўшчыкам?

— Не, дачушка, кладаўшчыком.

— А чаму ён гаворыць, што часта «сплаўляе?...»

### НЕ ХАПІЛА РАЗВАГІ

Жанчына расказвае сваёй сяброўцы:

— Я сказала яму, што выйду замуж, калі ён атрымае добрую пасаду.

— І вельмі дрэнна зрабіла.

— Чаму ж?

— Бо калі ён атрымае добрую пасаду, то навошта тады яму будзе жанчына з табою?

### АБУРЭННЕ ТЭЛЕГРАФНАГА СЛУПА

Дзе праўду мне знайсці:
Перашкаджаюць правады расці!

**Віктар Рэчыц**

### ЗАПРАШЭННЕ

**Дзве артысткі сустрэліся ў кафэ. Адна і гаворыць**

**— Былі ўчора на прыёме ў міністра. І вельмі здзівілася, чаму ён мяне не запрасіў да сябе ў кабінет.**

**— Сапраўды? І я таксама здзівілася, падумаўшы, што ён запрасіў цябе.**



— Такія рогі ўжо не модныя.

### У КАМЕНАЛОМНІ

Сіракузскі тыран Дзінісій кінуў вучонага Філаксена ў каменаломні за тое, што той крытыкаваў яго вершы. Аднойчы Філаксена зноў паклікалі слухаць вершы тырана. Філаксен праз хвіліну падняўся з месца. Дзінісій спытаў:

— Ты куды?

Той адказаў:

— У каменаломні.




**Калі малы чалавек захварэе на вялікасць, павінен заўсёды есці дрожджы.**

*

**Ёсць шмат людзей, якія заўсёды блудзяць, бо ад аднаго адышлі, а да другога не могуць трапіць.**

*

**Плётка найхутчэй разрастаецца ў асліных вушах.**

*

**Баязліваму заўсёды страх топча па пятах.**

*

**Чалавек сам сваімі рукамі патрапіць надта лёгка ўсадзіць сябе ў бяду.**

### ЦІ ВЫРАСТУЦЬ ЗУБЫ?

Пайшла Галачка да суседкі. Убачыла, што дзіця ў калысцы ніяк не ўлежыць спакойна, і пытае:

— Чаму гэта Лідачка ўвесь час верціцца?

— Значыць, зубкі вырастуць, — кажа суседка.

— Учора нашаму татку выбілі два зубы, а сёння ён таксама на ложку цэлы дзень верціцца. Значыць, і ў яго зубы зноў вырастуць? — спытала дзяўчынка.

### І ТАМ ЁСЦЬ

Адзін хлопец упершыню сеў на матацыкл і, выпіўшы, разбіў носа.

— Трэба ж было падаць на калені, або на рукі, — раілі яму.

— Ды нічога, і там ёсць, — адказаў матацыкліст і схапіўся за нагу.



Без слоў.

**Песні па заяўках**

Па просьбе Ірэны і Марыны з Бельска Падляшскага, Ірэны і Анатоля Аўгустынычыкаў з вёскі Гаркавічы, Сакольскага павета, змяшчаем песню п.з.

# ВАЛЬС О ВАЛЬСЕ

**Слова: Е. Евтушенко** **Музыка: Э. Колмановского**





































**— Вальс устарел, —**
**Говорит кое-кто, смеясь.**
**Век устарел в нем отсталость**
**И старость.**
**Робок, несмел,**
**Наплывает мой первый вальс...**
**Почему не могу**
**Я забыть этот вальс?**

**Твист и чарльстон,**
**Вы заполнили шар земной,**
**Вальс оттеснен, без вины виноватый.**
**Но, затаен,**
**Он всегда и везде со мной,**
**И несет он меня и качает меня,**
**Как туманной волной.**

**Смеется вальс**
**Над всеми модами века,**
**И с нами вновь танцует старая Вена,**
**И Штраус где-то тут**
**Сидит, наверно,**
**И кружкой в такт стучит,**
**На нас не ворчит...**

**Вальс воевал,**
**Он в шинели шел, запылен.**
**Вальс напевал**
**Про Маньчжурские сопки.**
**Вальс навевал**
**Нам на фронте осенний сон.**
**И, как друг фронтовой,**
**Не забудется он.**

**Вальс у костра**
**Где-то снова в тайге сейчас.**
**И Ангара**
**Подпевает, волнуясь.**
**И до утра**
**С нами сосны танцуют вальс...**
**Пусть проходят года, все равно никогда**
**Не состарится вальс.**

**Поет гармонь,**
**Поет в ночном полумраке.**
**Он с нами, вальс, —**
**В ковбойке, а не во фраке.**
**Давай за вальс поднимем наши фляги,**
**И мы ему нальем —**
**Нальем и споем,**
**И споем...**

**(После пения без слов:)**

**Робок, несмел,**
**Наплывает мой первый вальс.**
**Никогда не смогу,**
**Никогда не смогу**
**Я забыть этот вальс.**

# Курёзы

### Моваю гангстэра

«Толькі што прачытаў тваю вашывую рэцэнзію на канцэрт Маргрэт. Калі-небудзь я спадзяюся сустрэцца з табой. І калі гэта здарыцца, табе давядзецца рабіць новы нос, шукаць мяса для вачэй і, магчыма, мыліцы!» Ці не праўда «вытанчаны» стыль? На жаль, ён належыць не пяру гангстэра, а напісаны ў 1950 годзе ўласнай рукой Гары Трумэна, тагачаснага прэзідэнта ЗША.

Хто ж тая ахвяра, каму пагражалі ўсялякімі бедамі? Ім быў музычны крытык газеты «Вашынгтон пост» Поль Х'юм, які «смеліўся напісаць пра дачку Трумэна, што яна «не можа добра спяваць».

З таго часу мінула 16 год. Але вось зноў у амерыканскім друку загаварылі пра гэты унікальны «твор» Трумэна. Аказваецца, ён не застаўся ляжаць у архівах. Спачатку прамысловец з штата Каннекцікут Д. Старынг купіў гэтае пісьмо за невядомую суму ў Х'юма, а потым перапрадаў яго прыхільніку Трумэна, уласніку галантэрэйнай фірмы ў горадзе Нью-Хэвене. І, нарэшце, апошні цяпер аб'явіў, што знайшоўся новы купец, гатовы заплаціць тры з палавінаю тысячы долараў за пісьмо Трумэна.

### Прычына

Паводле амерыканскай статыстыкі, васемсот пяцьдзесят тысяч амерыканцаў пакідаюць штогод сваіх жонак. У двух выпадках з сотні прычынай разводу з'яўляецца іншая жанчына. Апошнія ж мужы ўцякаюць ад сваіх жонак проста таму, што хочуць зноў атрымаць свабоду.




**Вучыся на памылках — як трэба каяцца.**